БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

10 сакавіка 1994 г.
Чацвер
№ 27(13744)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года

Малюе Віктар ДУБОВІК




*Брастаўчанцы Але КЕБА — васемнаццаць гадоў. Яна вучыцца ў ПТВ–90, і праз год будзе швачкай шырокага профілю, зможа працаваць на складаным абсталяванні, устаноўленым на Брэсцкім панчошным камбінаце. Ужо цяпер у яе многа што атрымліваецца.*

*А яшчэ Ала — проста прыемная дзяўчына. І таму ў конкурсах, якія праводзіліся ў Брэсце, яна не раз была пераможцай. Ёй неаднойчы прапаноўвалі спыніць вучобу і папрацаваць манекеншчыцай у сталіцы Беларусі, а, магчыма, і за рубяжом. Але Ала вырашыла цвёрда: спачатку трэба атрымаць адукацыю. А потым ўжо...*

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.



## Кур'ер "ЧЗ"

### Студэнтам ёсць што абараняць

*Днямі адбыўся ўстаноўчы сход Свабоднага прафсаюза студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта.*

Было вырашана ўтварыць першасную структуру прафсаюза.

### Трохбаковае генеральнае пагадненне нарэшце падпісана

*Падпісана Генеральнае пагадненне паміж урадам, Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі і аб'яднаннямі наймальнікаў на 1994 год.*

У апошні час праект гэтага дакумента знаходзіўся на разглядзе ва ўпраўленні эканомікі Савета Міністраў Беларусі. Асноўным пунктам рознагалоссяў паміж урадам і прафсаюзамі па гэтым праекце было пытанне суадносін узроўняў мінімальнай заработнай платы і мінімальнага спажывецкага бюджэту. Тым не менш, як паведаміў загадчык аддзела арганізацыі і аплаты працы ФПБ Віктар Талстакораў, па гэтым спрэчным пытанні было прынята адзінае кампраміснае рашэнне: суадносіны памераў мінімальнай зарплаты і мінімальнага спажывецкага бюджэту павінны быць перагледжаны па выніках першага паўгоддзя 1994 года.

### Заробная плата: хваробы росту

*Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прэс–цэнтры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, кіраўніцтва ФПБ выступіла з прапановай да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі ўстанавіць памер мінімальнай заробнай платы не ніжэй за 60 тысяч рублёў у месяц.*

Як вядома, вось ужо тры месяцы запар памер мінімальнай зарплаты не мяняецца і складае 30 тысяч рублёў. У той жа час, паводле падлікаў спецыялістаў ФПБ, толькі ў студзені гэтага года спажывецкі кошык на сям'ю з чатырох чалавек падаражэў на 44 працэнты. Мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям"і з чатырох чалавек на канец першага квартала складзе, па прагнозах эканамістаў, 230-250 тысяч рублёў. Рэакцыя кіраўніцтва рэспублікі на гэтую прапанову прафсаюзаў пакуль невядомая.

### Алімпійскі шлюб

*Вярнуўшыся з зімовай Алімпіяды са срэбным медалём, беларуская біятланістка Святлана Парамыгіна зарэгістравала шлюб з другім членам алімпійскай дэлегацыі ў Лілехамеры Валерыем Дадзеркіным.*

Потым маладыя ў вельмі вузкім коле (з бацькамі) адзначылі гэту падзею, і... Святлана працягнула падрыхтоўку да адказных стартаў — этапаў Кубка свету і каманднага чэмпіянату свету, якія пройдуць у Канадзе.

БелаПАН.

### Дарагія выбары

*Калі выбары першага прэзідэнта Беларусі адбудуцца гэтым летам, то яны будуць каштаваць (па курсу лютага) 116 мільярдаў рублёў.*

Менавіта такую суму плануе расходаваць Цэнтральная выбарчая камісія на правядзенне перадвыбарнай кампаніі будучага кіраўніка дзяржавы. Зразумела, што такія грошы Нацыянальны банк рэспублікі не возьме з паветра. Іх прыйдзецца ўзяць з кішэняў падаткаплацельшчыкаў. Узнікае пытанне: а ці не будуць у такім выпадку ўрэзаны да мінімуму многія сацыяльныя праграмы?

### У гонар беларускага мысліцеля

*Тэматычная кніжная выстаўка, прысвечаная 360–годдзю беларускага мысліцеля–атэіста і матэрыяліста Казіміра Лышчынскага, днямі адкрылася ў Цэнтральным доме афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі.*

З матэрыялаў, выстаўленых у экспазіцыі, наведвальнікі даведваюцца пра цудоўнага чалавека, які ў XVII стагоддзі асмеліўся кінуць выклік усемагутнай каталіцкай царкве, поўнасцю адмаўляючы існаванне бога. Ураджэнец брэсцкага павета, дзе ў яго быў маёнтак Лышчыцы, вучыўся ў езуіцкай калегіі ў Вільні, Кракаўскім універсітэце, потым быў выкладчыкам. Пасля парваў з езуітамі і цвёрда стаў на пазіцыю актыўнага атэізму. За гэта быў арыштаваны, прыгавораны Біскупскім судом да абезгалоўлівання і спалення на кастры ў Варшаве.

Казімір Лышчынскі марыў аб роўнасці і братстве, хацеў бачыць "свет без улады, гарады без начальнікаў, народы без гаспадароў". Ён апярэдзіў некаторыя ідэі філосафаў-асветнікаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Грошы любяць лік

*Як вядома, праз Беларусь праходзяць шматлікія шляхі–дарогі ў Еўропу. І гэта не толькі чыгуначныя і аўтамабільныя магістралі, а і вялікай магутнасці нафтавы і газаправоды, праз якія днём і ноччу ў многія дзяржавы паступае расійская сыравіна.*

З кампетэнтных крыніц стала вядома, што за мінулы год Рэспубліка Беларусь павінна была атрымаць за транзіт праз сваю тэрыторыю каля двух мільярдаў даляраў.

Але... Ніяк не можам мы адрэгуляваць заканадаўства, у адпаведнасці з якім у рэспубліканскі бюджэт паступалі б такія вялікія грошы за тое, што эксплуатуюць нашу тэрыторыю далёкія і блізкія суседзі. І не проста эксплуатуюць, але і наносяць непапраўную шкоду прыродзе, а, значыць, і нашаму здароўю...

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Будзем з тэлефонам

*Міністэрства сувязі і інфарматыкі па новай распрацаванай і адобранай Саветам Міністраў праграме плануе да 2000 года ўстанавіць тэлефоны ў 90 працэнтах кватэр гарадоў нашай рэспублікі. А таксама тэлефанізаваць сельскую мясцовасць з разліку 45 тэлефонаў на 100 сем'яў у сярэднім.*

Агульны аб'ём капіталаўкладанняў вытворчага прызначэння на рэалізацыю праграмы "Развіцця сродкаў сувязі Рэспублікі Беларусь да 2000 года" ацэньваецца ў 384,5 мільёна ўмоўных даляраў.

(Ул.інф.)

### "Валютнае" лячэнне

*У канцы мінулага тыдня адбылося адкрыццё рэспубліканскага Цэнтра медыцынскай рэабілітацыі хворых (інвалідаў) на гемафілію.*

На цяперашні час у Беларусі зарэгістравана каля 600 чалавек з гэтым захворваннем. Асноўны сімптом яго — незгусальнасць крыві. Доўгі час гэта хвароба лічылася цяжкай спадчыннай, называлася "царскай", бо менавіта яна ў асноўным распаўсюджвалася сярод каралеўскіх і княжацкіх дынастый еўрапейскіх дзяржаў.

Згодна з данымі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, гемафілія — захворванне, лячэнне якога вельмі многа каштуе. Каб эфектыўна дапамагчы такому пацыенту, неабходна патраціць на яго лячэнне каля 10 мільярдаў даляраў ЗША ў год.

А ў рэспубліцы не толькі няма такіх вялікіх грашовых сродкаў, але, на жаль, не зроблена і высакаякасных лекавых прэпаратаў.

У Цэнтры медыцынскай рэабілітацыі хворыя на гемафілію з усёй краіны змогуць атрымаць кваліфікаваную кансультацыю, аказаць неабходную першую дапамогу, накіраваць на лячэнне ў сталічныя клінікі.

Ірына ШУКЕВІЧ.

### Курсы валют на 9 сакавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7200 | 7500 | 4200 | 4390 |
| "Пошук" | 7250 | 7450 | 4000 | 4200 |
| "Бел-бізнесбанк" | 7250 | 7550 | 4270 | 4440 |

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

# Выданне для душы

□ Васіль ТУРКЕВІЧ

*"Чырвонку" я пачаў выпісваць яшчэ ў 1950 годзе, калі вучыўся ў пятым класе. Аднакласнікі аддавалі перавагу "Зорцы" і "Піянеру Беларусі", але мне тады было ўжо 16 гадоў (многія мае равеснікі пайшлі ў першы клас толькі пасля вайны), і менавіта "Чырвоная змена", як я вырашыў, найлепшым чынам адпавядала майму ўзросту.*

Потым давялося служыць у арміі, дзе не было магчымасці чытаць беларускія выданні. І калі ў 55-м годзе я вярнуўся ў сваё Пінскае педвучылішча, перш за ўсё ўзяў сваю любімую "Чырвонку". Мяне не ўсе разумелі — памятаеце, напэўна, якія адносіны ў тыя часы былі да беларускай мовы...

Мне падабалася, што "Чырвонка" была смялейшай за іншыя газеты. Памятаю, напісаў я неяк артыкул з назвай "Хто ты, троечнік?", дзе спрабаваў разважаць пра педагогіку супрацоўніцтва, пра тое, што ў кожным вучню перш за ўсё трэба бачыць асобу. І сцвярджаў, што нельга праз адзнаку ацэньваць чалавека: здараецца, былы выдатнік і актывіст вырастае ў эгаіста і кар'ерыста, а школьны троечнік робіцца выдатным працаўніком... Падобныя погляды на педагогіку не вельмі віталіся. І ўсе газеты, куды я звярнуўся, адмовіліся надрукаваць мой матэрыял. А "Чырвоная змена" надрукавала, выклікаўшы цэлы шквал чытацкіх лістоў.

Прызнаюся, ваша газета прайшла амаль праз усё маё жыццё. Чытаў я яе рэгулярна, але выпісваць ізноў пачаў нядаўна — і зусім не шкадую. Бо нават цяпер, калі ўжо даўно не належу да маладзёжнай "катэгорыі", па-ранейшаму знаходжу ў "Чырвонцы" шмат матэрыялаў і для работы, і для душы.

## АДЦІСКАЕ "ЧАРНУХА" "ВІНІ-ПУХА"

У падземным пераходзе Мінска на станцыі метро "Інстытут культуры" адразу ў некалькіх месцах стаяць латкі з вялікім асартыментам бульварнай літаратуры. Ляжаць пачкамі "Клюква", "Криминальная хроника", "Детектив", "Версия", "Алиби" і іншыя выданні, якія не даюць нічога ні розуму, ні сэрцу і разлічаны толькі на тое, каб на хаду прачытаць і выкінуць.

Стаяць гэтыя латкі з двухсэнсоўнай прадукцыяй з раніцы да позняга вечара. Дарэмна шукаць на іх дзіцячыя кнігі. Не бегаюць па вагонах распаўсюджвальнікі дзіцячай літаратуры. Гандляры ад літаратуры забылі пра "самы прывілеяваны клас". Цяжка лёгкаму як дзіцячае шчасце "Віні-Пуху" цягацца з монстрамі, забойцамі, канібаламі, гвалтаўнікамі і іншымі "героямі" бульварнай літаратуры.

Вячаслаў ІШЧАНКА.



## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С. КІРЫЕНКА, Д. ЛІТВІН, рэдактар П. СІМАНАЎ.*

### Па слядах 8 Сакавіка

*Сёлетні Міжнародны жаночы дзень прымусіў палітыкаў усяго свету зноў прызнаць, што жанчына далёка не ўраўнавана ў правах да мужчыны.*

Менш як 5 працэнтаў кіраўнікоў дзяржаў ці міжнародных арганізацый — прадстаўніцы прыгожага полу. Жанчыны займаюць усяго 6 са 159 пасад прадстаўнікоў у ААН. У краінах Афрыкі і Азіі жанчыны да гэтага часу працуюць па 13 гадзін у суткі. Больш як 2/3 з 900 мільёнаў непісьменных ва ўсім свеце складаюць таксама жанчыны. Яны ўсё яшчэ атрымліваюць меншую, чым мужчыны, зарплату (згодна з данымі ААН, ніжэй на 30-50 працэнтаў), а таксама падвергнуты беспрацоўю (у Еўропе 12,6 працэнта супраць 9,7 беспрацоўных моцнага полу).

* * *

*Упершыню ў Германіі жанчыны правялі ўсеагульную забастоўку, прымеркаваную да 8 Сакавіка.*

Яны выйшлі на вуліцы з патрабаваннямі павышэння зарплаты, ліквідацыі дыскрымінацыі пры прыёме на работу, змяншэння рабочага дня. Некаторыя таксама патрабуюць больш паважлівых адносін да іх з боку калег-мужчын і начальства.

### Нападзенне на самалёт

*Над Харватыяй было ажыццёўлена нападзенне на транспартны самалёт войск ААН.*

Ракета, выпушчаная з зямлі, закранула хвост самалёта. Экіпаж атрымаў невялікія раненні. Хто выпусціў ракету — да гэтага часу невядома, але міністэрства абароны Харватыі заявіла, што гэта справа рук харвацкіх сербаў.

### Рэкорднае заключэнне

*1802 гады турмы атрымаў член баскскай сепаратысцкай групоўкі "ІТА".*

Француза Паро абвінавацілі ў тым, што ў 1987 годзе ён закідаў гранатамі і падклаў бомбу пад казарму іспанскіх салдат. 11 чалавек, сярод якіх 5 дзяцей, загінула. Усяго ж за сваё жыццё Паро ўчыніў 37 забойстваў.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## Процістаянне па–ангольску

*У Анголе некалькі тэрарыстаў групоўкі УНІТА абстралялі рэйсавы аўтобус, які ішоў у сталіцу краіны.*

Паводле папярэдніх звестак, 17 чалавек забіта. Урадавыя войскі плануюць меры ў адказ.

## Адпачынак з рызыкай для жыцця

*Два французы захоплены калумбійскай падпольнай групоўкай.*

Яны праводзілі ў гэтай краіне свой адпачынак. Паліцыя сумесна з войскамі вядзе іх пошук.

## Жалоба ў Ліване

*У Ліване была аб'яўлена нацыянальная жалоба ў сувязі з выбухам у царкве недалёка ад Бейрута, у выніку якога некалькі чалавек загінулі і шмат былі паранены.*

У сталіцы Лівана Бейруце і ў Паўднёвым Ліване амаль усе ўстановы і школы закрыты на няпэўны час.

## Англія прыкмечана ў нелегальным гандлі зброяй

*Міністр замежных спраў Англіі падвергнуў крытыцы былога міністра абароны гэтай краіны.*

Паводле ягоных звестак Англія падпісала нелегальную дамоўленасць аб гандлі зброяй з Малайзіяй.

## Машыны, падобныя на гадзіннікі

*У Штутгарце адбылася прэзентацыя дзвюх мадэлей аўтаканцэрна "Мерседэс".*

Мадэлі былі выпушчаны сумесна са швейцарскай фірмай па выпуску гадзіннікаў. Спецыялісты лічаць, што новыя аўтамабілі настолькі прыгожыя і мініяцюрныя, што нагадваюць швейцарскія гадзіннікі. На рынак мадэлі паступяць у 1997 годзе.

## "Зорка" з гераінам

*Амерыканская рок–група "Нірвана" не зможа працягваць сваё еўрапейскае турнэ па запланаваным графіку.*

Курт Кабэйн, гітарыст групы, апынуўся ў бальніцы. Ёсць падазрэнне, што ён ужывае гераін.

## Містыка – побач

*Чарнаскурай манашцы Саране Алі, паводле яе заявы, некалькі разоў з'яўляўся Хрыстос.*

Ёй нават удалося зрабіць 2 здымкі Хрыста звычайным фотаапаратам на звычайную плёнку. З таго часу кожную пятніцу ў яе няспынна цякуць слёзы, што, паводле сведчання ўрачоў, з'яўляецца не паталогіяй, а містыкай.

## Камп'ютэры вучацца слухаць

*Іспанскімі вучонымі распрацаваны доследныя ўзоры камп'ютэраў, якія рэагуюць на чалавечы голас.*

З дапамогай гэтых апаратаў можна надыктаваць для далейшай раздрукоўкі вусны тэкст, а таксама вучыцца правільнаму праслухоўванню пры вывучэнні замежнай мовы. У далейшым плануецца выкарыстанне такіх апаратаў для навучання дзяцей з дэфектамі мовы.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

# ЮРЫДЫЧНАЯ СЛУЖБА "ЧЗ"

## ВОЛЬНЫ ДЗЕНЬ

*"Я выхоўваю дваіх дзяцей. Чула, што цяпер жанчынам прадастаўляюць вольны ад працы дзень. Ці так гэта?*

Галіна КАШЫЦКАЯ."

Сапраўды, маці, якая выхоўвае дваіх ці болей дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, па яе заяве кожны месяц прадастаўляецца адзін свабодны ад працы дзень. Умовы прадастаўлення вольнага дня і памер аплаты павінны быць вызначаны ў калектыўным дагаворы. Наймальнік мае права па ўзгадненню з працоўным калектывам вызначаць за кошт уласных сродкаў памер аплаты адзначанага вольнага ад працы дня. Гэта можа быць як поўнае, так і частковае захаванне сярэдняга дзённага заробку. Пры адсутнасці сродкаў свабодны дзень павінен прадастаўляцца без аплаты, калі маці выказала ў заяве такое жаданне. Штомесячны вольны ад працы дзень пераносу на іншы месяц не належыць. Недапушчальна такое падсумоўванне гэтых дзён для далейшага прадастаўлення іх разам.

## НА АСНОВЕ ДАМОВЫ

*"Я прыватызавала сваю кватэру. Вельмі хацелася б даведацца, ці магу я яе прадаць, падарыць, а таксама ці маю права на паляпшэнне жыллёвых умоў?*

Г.С.УСЦІНОВІЧ."

Могуць быць прададзены, але толькі пасля трох гадоў з моманту іх набыцця ва ўласнасць. Да гэтага часу жыллёвае памяшканне можа быць прададзена толькі мясцовым Саветам народных дэпутатаў па дагаворных цэнах. Дагавор дарэння кватэры, якая знаходзіцца ў асабістай уласнасці, можа быць заключаны паміж блізкімі сваякамі: муж і жонка, дзеці, бацькі, дзядуля, бабуля, унукі, родныя браты і сёстры ўласніка і яго жонкі (мужа).

Вы маеце права і на паляпшэнне жыллёвых умоў на аснове куплі ці дагавора найму дзяржаўнага і грамадскага жылля. Пры гэтым паляпшэнне жыллёвых умоў па такому дагавору дапускаецца толькі пры ўмовах адчужэння займаемага памяшкання мясцовым Саветам народных дэпутатаў, калі ў займаемым памяшканні не застаюцца члены сям'і.

## ЖЫЛЛЁ ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ

*"Паведаміце, калі ласка, што ўлічваецца пры размеркаванні жылля для інвалідаў.*

З павагай Віктар Паўлавіч АВЯР'ЯНАЎ."

Пры размеркаванні жылых памяшканняў выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствы, установы і арганізацыі ўлічваюць неабходнасць інвалідаў у выдзяленні ім жылых памяшканняў недалёка ад іх месца працы, месца жыхарства іх сваякоў, устаноў рэабілітацыі.

Інвалідам, згодна з медыцынскімі паказчыкамі і з улікам іх пажадання, прадастаўляюцца (ці абменьваюцца) жылыя памяшканні на ніжэйшых паверхах жылых дамоў.

Прадастаўляемыя інвалідам жылыя памяшканні павінны адпавядаць санітарна-тэхнічным патрабаванням, вызначаным з улікам стану здароўя інвалідаў.

Падставы для прызнання таго, што інваліды маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, чарговасць прадастаўлення ім жылля вызначаюцца Жыллёвым кодэксам Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым інвалідам 1-й групы паляпшаюцца жыллёвыя ўмовы, калі на кожнага члена сям'і ёсць па 9 кв.метраў.

Інвалідам прадастаўляюцца льготы па аплаце жылля і камунальных паслуг.

Рубрыку вядзе аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі.

# МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

## "Цяжкія" бацькі

□ Васіль ТУРКЕВІЧ

***Надвячорак даўно змяніўся вечарам, на слупах і ў дамах загарэліся лямпачкі, у суседнім пакоі з экрана тэлевізара тэмпераментны Озераў вітаў чарговую перамогу армейцаў, а мы (аднаму за 50, другому — амаль 18) сядзелі і разважалі, як вырашыць гэтае адвечнае пытанне з серыі "ён і яна". Праблема была не ў тым, што "яна" не разумее глыбіні пачуццяў "яго" — яны цудоўна адпавядалі адзін аднаму. Перашкодай зрабіўся трэці, і не хто–небудзь чужы, а свой, блізкі — бацька. І калі я прапанаваў свайму юнаму субяседніку сур'ёзна пагаварыць з ім, боль і расчараванне адбіліся на твары майго ўчарашняга вучня.***

— Ды што вы, Васіль Макаравіч! Хіба з ім можна гаварыць пра гэта? Ён рота не дасць мне адкрыць. Праз некалькі месяцаў я ў армію пайду, а ён, родны бацька, лічыць мяне за першакласніка. Нават горш... Мы з ім наогул амаль што не размаўляем — няма пра што...

Чаму ж так атрымалася? — падумалася мне. Калі, у які дзень пачалі аддаляцца два блізкія чалавекі — бацька і сын? Між іншым, гэтага бацьку я добра ведаў — выдатны працаўнік, паважаны на вёсцы чалавек. Я не раз бачыў яго на рабоце, на калгасных сходах і пасяджэннях, у час сяброўскіх сустрэч. Але ніводнага разу — на бацькоўскім сходзе. Жонка наведвае сходы рэгулярна, ён — ніколі. Зрэшты, падобнае размеркаванне "сямейных абавязкаў" і ў іншых маіх аднавяскоўцаў. Што ж адбываецца? Чаму выхаванне дзяцей мужчыны ўсклалі на плечы жонак? Варта спытацца пра гэта ў якога бацькі — ён адразу ж замахае рукамі: маўляў, няма калі мне займацца вашай педагогікай. Я і так цэлы дзень на рабоце... Ды хіба ж я не выхоўваю сваіх дзяцей? Няхай толькі жонка ці настаўнік скажуць, што сын сваволіць, я яго так выхаваю — век памятаць будзе!.. У мяне размова кароткая.

Вось тут і бяда, шаноўны бацька, што размова ў цябе кароткая. Выхаванне ж патрабуе пастаяннай увагі.

Але некаторыя таты толькі пасля чаркі ўспамінаюць пра свой бацькоўскі абавязак. Памятаю, не так даўно скардзіўся мне адзін вучань:

— Цвярозым бацька ў нашыя дзённікі ніколі не зазірне. Калі ж вып'е, успамінае, што мы ў яго — вучні. Пачынае трыбушыць дзённік, душу выцягне за "двойку", якую я атрымаў, напрыклад, два месяцы назад. Натуральна, у гэты вечар я ўжо не магу як след падрыхтавацца да ўрокаў. І ў выніку — новая "двойка"...

Пэўная колькасць татаў толькі пасля закусачнай знаходзіць дарогу ў школу. Вяду неяк увечары ўрок — і раптам чую: у калідоры нехта размаўляе з вартаўнікам. Адразу ж заўважаю, што вучань, які толькі што выдатна адказваў ля дошкі, замаўкае і бялее. З трывогай падыходжу да яго.

— Што з табою? — пытаюся.

— Мой бацька... Яго голас.

— Дзе?

— У калідоры.

— Ну і што?

— Ён п'яны.

— Але ж ты нічога благога не нарабіў — навошта палохацца?

— Думаеце, у такім стане ён будзе чакаць, пакуль я нешта нараблю?..

Страх замест узаемаразумення. І ці з'явіцца яно, гэтае ўзаемаразуменне ў будучыні? Наўрад ці...

Так, бацька, у цябе ёсць падставы быць незадаволеным сваім сынам. На яго часта скардзяцца: лаецца, брыдкасловіць. А ці не ад цябе пачуў ён усе гэтыя эпітэты і звароты? Ён жа прыглядаецца да цябе, імкнецца да падабенства. І ці не здарыцца калі-небудзь так, што цябе самога ў рэшце рэшт ён пашле па тым жа адрасе, па якім ты не раз накіроўваў жонку ці суседзяў? Не выпадкова ж кажуць: што пасееш, тое і пажнеш.

Успомні, бацька, колькі разоў ты шчыра пагаварыў з сынам ці дачкою, адказаў на іхнія пытанні, перажыў іх радасці? А як часта, вяртаючыся дамоў, скіроўваў ты ў кнігарню, каб купіць кніжку, набор марак, камплект паштовак ці гульню "Юны канструктар"? Ты ашчадны гаспадар? На глупства табе шкада грошай? Але давай шчыра: у кафэ ты зазірнуў, не пашкадаваўшы грошай на "градусы"? Можа, гэта і ёсць тое самае глупства?.. Ці не твой сын расказваў мне вось што:

— У нядзелю да нас збіраюцца мужчыны. Пачынаюць гульню ў "тысячу". Калі ідзе па тэлевізары хакей, "замочваюць" — усё роўна што: перамогу ці паражэнне. Сядзяць, пакуль вечарам жонкі не пацягнуць за рукаў дамоў: "Ідзі, п'янчо, карову кармі". Гэта толькі ў песні спяваюць: "Воскресенье — день веселья". А для мяне, Васіль Макаравіч, гэта дзень пакут...

Шаноўны бацька, калі хочаш застацца для свайго сына крыніцай любві, гонару, узорам для пераймання — паспрабуй зразумець яго, пагаварыць "па душах". Бо потым, магчыма, ужо нічога не паправіш.

# КРЭСЛА № 13

## Я ў вядучыя пайшоў бы...

□ Майя ШЭНДРЫК, "ЧЗ"

Сёння ў чарговым выпуску нашага "Крэсла № 13" хацелася б спыніцца на такой важнай асобе для тэлебачання, як тэлевядучы. Думаю, бясспрэчнай будзе думка, што менавіта вядучы той ці іншай перадачы ў самай вялікай ступені вызначае твар, а ў рэшце рэшт і лёс свайго тэлетвора. Апошняму, канешне, заўсёды нестае і яшчэ аднаго — грошай, але пры вялікім жаданні іх адшукаць можна, а вось зрабіць патэнцыяльна няздольнага чалавека тэлевядучым не змогуць ні грошы, ні цікавыя па задуме перадачы.

Дастаткова толькі ўважліва паслухаць нашых тэлевядучых:

"...Вось тут прыйшло пісьмо з пытаннем ад... І калі яна глядзіць нашу перадачу, а гэта ён..." ("Эканамічная хваля").

"Гэта, канешне, безумоўна важная справа..." ("Эканамічная хваля").

"Правільны атв... адказ — няправільны атв... адказ..." (і так на працягу ўсёй перадачы "Папараць-кветка" вядучая дае адзнаку свайму пытанню, выкарыстоўваючы выключна вышэйнапісаныя словы).

"А зараз наша містычна-фантастычная дзяўчына..." (маецца на ўвазе спявачка, якая запаўняе ўсе музычныя паўзы і якую вядучы перадачы "На крылах кажана" ўвесь час аб'яўляе толькі такім надакучлівым і даволі смешным спалучэннем слоў).

Не хацелася б кагосьці крыўдзіць і тым больш вучыць, не хацелася б "перамываць косткі" нашым тэлевядучым, аднак вельмі і вельмі хацелася б, каб не сорамна было за наша і без таго непрэстыжнае тэлебачанне, каб з'яўляліся цікавыя перадачы і іх неслі да нас цікавыя таленавітыя людзі, каб у рэшце рэшт у нас з'явіліся і свае тэлезоркі, якія б ні ў чым не ўступалі расійскім.

Гавораць, тэлевядучы — гэта прафесія, якой амаль немагчыма навучыцца, з якой трэба проста нарадзіцца. Магчыма, гэта і так: пачакаем нараджэння.

■

# «НОТНЫ АРКУШ»

№ 5 (240)

*вядучы — Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

Тэл. 68-29-26

МІРА ЛУКША "ЗАМОВА", выдавецтва "Orthdruk", Беласток, 1993

На першы погляд, гэтая кніга не мае дачынення да музыкі. Але ці не памылковы гэты погляд, як у выпадках, скажам, з сустрэтымі раней на нашых старонках рэцэнзіямі на паэтычныя зборнікі С.Новіка-Пяюна (у "ЧЗ" № 125 за 11.XII.93.) або С.Сокалава-Воюша (у "ЧЗ" № 87 за 5.V.90).

Для прыкладу, той жа Сокалаў-Воюш сам вядомы бард-выканаўца сваіх песень, а творы на вершы Новіка-Пяюна выконваюць і Данчык, і ён сам, і іншыя...

Дык вось, што да Міры Лукшы, беларускай паэткі, навелісткі і журналісткі з Польшчы, дык яна звязана з музыкай і праз бардаўскую песню (слухайце шэраг твораў ейнай зямлячкі Элі Бэзюк), і праз беларускі рок (слухайце віцебскі гурт "Грамада"). Ды й хто з беларускіх рокераў не ведае гасціннай хаты Міры Лукшы ў Беластоку, ездзячы на славуты фестываль "Басовішча". Менавіта там можна сустрэць і музыкаў "Крамы", і гераіню "грамадоўскай" песні "Бажэна", і многіх нашых бардаў. Гэтая хата ператварылася ледзь не ў клуб творчых сустрэч нацыянальнай інтэлігенцыі з абодвух бакоў мяжы.

Нельга сказаць, што ўсё гэта аднадумцы. Проста яны аб'яднаныя нацыянальнай ідэяй. Як і "Бонда" ("прыйдзе іх дзень і тутэйшаю мовай зноў загаворыць род глухіх і нямых"), як і Зміцер Сідаровіч ("сёння мова ўмірае той зямлі, дзе я ўзрос"), як і "Грунвальд" ("з якой нагоды народ не кат, не абібок раптоўна стаўся не народам?"), Міра Лукша думае пра лёс Бацькаўшчыны і гэтае задуменне каталізуецца ў першую чаргу родным словам:

*Нямеўшы надзеі, хоць маючы Слова,*
*Якое з пачатку сусвету гучала...*
*О, Ойча, Ты нашаю роднаю моваю*
*Сказаў жа: "Хай будзе!" — і ўсё так паўстала.*

Але жывіцца жыццё гэтага нацыянальнага асяроддзя, паўторым, спрэчкай. Калі Кася Камоцкая спявае: "Мы — дзеці чорнага горада, мы — дзеці бацькоў памерлых", дык Міра Лукша адказвае ёй:

*Белыя крылы ў мяне выраслі!*
*Дзеці з белага горада цешацца —*
*Анёл ходзіць па вуліцы*
*І спявае песню беларускую.*

Відаць, святлеюць гарады, калі анёлы спяваюць над імі не чужыя, а родныя песні. Ды ўсё ж у рэальнасці ўсе мы пакуль знаходзімся паміж чорным і белым горадам. Нам адно прыемна ў засені "доўгай белай хмары", якая — часова ці стала — праплывае над нашай краінай.

Гэты вобраз з крыжэлак "Уліса" таксама развіўся ў творах Міры Лукшы.

*Вецер гоніць белу хмару*
*Па сіні паблеклай.*
*Гнеўны коннік з нашых мараў*
*Вырваўся із пекла.*
*Людзі вочы апусцілі,*
*Быццам грош шукаюць.*
*Ці падкову залатую*
*Кінуць ім — хай маюць?*

Шчыра кажучы, цытаваныя вершы паводле сваёй формы не тыповыя для Міры. Яна выяўляе не толькі вальнадумства, але і схільнасць да вольных форм. Мо таму, менавіта з гэтай кніжкі, ейныя вершы не заспявае ніводзін рокер, ніводзін бард. Хіба што знойдзецца нейкі авангардыст. Бо надта ж складаная для спеву форма (хоць і не без унутранай музыкі). Дарэчы, з гэтай прычыны Міра мела шмат канфліктаў з рэдактарамі мінскіх выданняў, што друкавалі ейныя творы не ў ейнай форме. "Orthdruk" дазволіў ёй самой рэдагаваць свае творы, таму акурат тут мы можам пазнаёміцца з Мірай Лукшай, як яна ёсць.

Рыгор ДАМІНЮК.

■

*з гісторыі Беларусі*

# ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

нае войска Вялікага Напалеона, імператара французаў, караля Італьянскага, вызваліцеля Польшчы, уступіла сёння ў наш горад. Гэты памятны ў гісторыі дзень вызваліў нашу правінцыю ад прыгнёту рабства і вярнуў нас Айчыне. Пасля выгнання з горада рускіх чыноўнікаў у ім засталіся толькі палякі..."

У нумары дзевятым гэтага ж выдання з вялікай асалодай і захапленнем расказвалася аб перайменаванні адной з плошчаў Мінска: "Адміністрацыя Мінскага Дэпартамента, жадаючы як след адсвяткаваць чарговыя імяніны вызваліцеля Польшчы Вялікага Напалеона, пастанавіла: назваць гарадскую плошчу ў Мінску, якая раней называлася Высокі Рынак, — імем нашага збавіцеля, г.зн. "Плошча Напалеона".

Просты беларускі люд змагаўся за свае ачагі, за сваю маёмасць, што вымушала Напалеона трымаць значныя сілы ў тыле. Так, нават напярэдадні славутай Барадзінскай бітвы, Банапарт вымушаны быў накіраваць 10 тысяч жаўнераў на падмогу 12-тысячнаму гарнізону ў горадзе Віцебску.

Першыя беларускія партызанскія атрады ўзніклі яшчэ ў ліпені 1812 года. Асабліва вызначыўся сярод іх атрад з вёскі Трасцянкі з Ігуменшчыны (цяпер Чэрвеньскі раён). Партызаны арганізоўвалі напады на французаў, разам з жыхарамі хавалі ў лясах і балотах ад захопнікаў харч, адзенне, фураж, маёмасць, каштоўнасці. Як пішацца ў падручніках па гісторыі, паводле слоў сучаснікаў, у Барысаўскім павеце сяляне нападалі на групы французаў, "знішчалі іх... тапілі ў рэках". Рускім войскам дапамагалі ўсім: аддавалі коней і падводы, ежу і фураж, збіралі і дастаўлялі звесткі пра варожую армію. Сучаснікі данеслі да нас, як абіралі французы наш народ. Генерал Шарпанцье пагражаў жыхарам Віцебска, што калі праз 2 гадзіны не будзе пастаўлена на бойню ад горада жывёла, горад падвергнецца ваеннай экзекуцыі.

Войскі Жэрома Банапарта разграбілі Гродна, Шчучын і іншыя беларускія гарады і вёскі. Луі Даву гаварыў у Магілёве: "Панове, імператар патрабуе ад вас трох рэчаў: хлеба, хлеба, хлеба".

А.Дзюранэль, 14 ліпеня пісаў: увесь раён ад Варанцова да Ліды "разрабаваны войскам яго вялікасці караля Вестфальскага" (Жэрома Банапарта. — М.М.).

Палякі і спаланізаваная беларуская шляхта супраць гэтага не паўсталі.

Напрыклад, вядомы польскі генерал Ян Дамброўскі паспяхова абіраў беларускае насельніцтва для свайго і французскага войска, нішчыў сялянскі беларускі люд. Але потым яго і афіцыяльная савецкая гісторыя, і асабліва польская, узвялі ў лік выдатных людзей. Імя яго французы высеклі на Трыумфальнай арцы ў Парыжы. У беларускай гісторыі ўжо была такая з'ява, як з грабежніка і рабаўніка, забойцы, украінскага багацея-казака Севярына Налівайкі зрабілі нацыянальнага беларускага героя, а камяніцы і падмуркі Слуцка, Магілёва дасюль помняць яго зладзействы і грабяжы...

Вялікае княства Літоўскае, абяцанае хітрым французскім імператарам, было нічым іншым, як выдатнай абяцанкай-цацанкай, каб дурыць тых, хто гэтага жадаў. Не для таго ён паланіў краіны і народы, каб потым даць ім свабоду і роўнасць. І смешна чытаць тых вучоных, якія імкнуцца апраўдаць здрадніцтва і ліхадзействы польскіх паноў і тых радавітых беларусаў, якія нішчылі свае землі і свой народ, адбіралі ў гараджан і сялян апошняе і аддавалі ўсё французам.

І беларускі народ паўстаў супраць чужаземцаў. Ён пайшоў у лясы і балоты, у вёсках ствараў кардоны, дружыны, лятучыя атрады, каб захаваць свае вёскі і дамы ад невялікіх атрадаў ворага. 22 чалавекі са славутага партызанскага атрада з вёскі Жарцы (пад Полацкам) пад кіраўніцтвам Максіма Маркава за доблесць, адвагу і гераізм узнагародзілі крыжамі. Гэта пра іх пісаў Барклай дэ Толі: "...У 1812 годзе, калі навакольныя вёскі былі заняты ворагам, яны вёску абаранялі ад нападу праціўніка і ўдзельнічалі сумесна з казакамі ў перамогах над ворагам, а таксама былі ў бітве пры ўзяцці штурмам горада Полацка.

Жыхар Полацка І.Цімафееў — гэта легендарная і нязломная асоба, бясстрашны разведчык — быў захоплены французамі, але ўцёк ад іх, каб з новымі сіламі помсціць ворагу, ён быў узнагароджаны сярэбраным медалём.

Побач з мужчынамі змагаліся жанчыны і падлеткі. За асаблівую адвагу ў баях з французамі быў уручаны медаль прыгоннай сялянцы Фядоры Міронавай з вёскі Пагуршчына (зараз яе тэрыторыя ўваходзіць у горад Полацк).

Гісторыя захавала частку подзвігаў Ф.Міронавай у дакументах: "Гасудар імператар ва ўзнагароджанне подзвігаў сялянкі Віцебскай губерні памешчыка Глазкі Фядоры Міронавай, якая ў незабыўную вайну 1812 года, будучы неаднаразова пасланая ў Полацк для разведвання становішча непрыяцеля, зусім не баялася ахвяраваць сваім жыццём, але, кіруючыся адзінай дбайнасцю і любоўю да Бацькаўшчыны, ішла на ўсе небяспекі, якія пагражалі ёй смерцю, і прыносіла адтуль дакладныя і надзвычай карысныя для корпуса генерала ад кавалерыі Вітгенштэйна звесткі, усеміласцівейша падараваў ёй пяцьсот рублёў грошай і сярэбраны на аненскай стужцы медаль з надпісам "За карыснае", які дазваляецца ёй насіць. Ваенны міністр Канаўніцын. Лютага 4 дня 1816 года".

Так што першыя баі ў Расіі Напалеон Банапарт прайграў на палях Беларусі:

— 22—23 ліпеня. Бой рускіх войск з напалеонаўскімі войскамі каля в.Салтанаўка (Магілёўскі раён);

— 27 ліпеня. Разгром войск напалеонаўскага генерала Ж.Рэнье пад г.Кобрынам;

— 12 жніўня. Бітва рускіх войск з напалеонаўскімі войскамі каля мястэчка Гарадзечна (Пружанскі раён)...

У Беларусі на Бярэзіне Банапарт і закончыў свой бясслаўны шлях. Толькі ля вёскі Студзёнкі ён страціў палоннымі больш як 30 тысяч чалавек. А сам уцёк у напрамку горада Маладзечна. У гэтым горадзе 3 снежня імператар склаў "погребальный" 29-ы бюлетэнь, дзе ўсю віну за свае злачынствы і няўдачы зваліў на рускі мароз. Адсюль ён уцёк у горад Смаргонь, дзе 5 снежня перадаў кіраўніцтва войскамі Мюрату.

Пра Бярэзіну трэба сказаць больш. Бяздарнасць кутузаўскіх генералаў і сам стан Кутузава здзівілі ўвесь свет. Напалеон уцёк "пад самым носам у праціўніка" (К.Клаўзевіц). І я поўнасцю згодны з вывадам аб выніках Бярэзінскай аперацыі, якую зрабіў адзін з нямецкіх гісторыкаў таго часу:

"Бярэзіна! Ракавое імя, ракавое месца, дзе маглі закончыцца, але не закончыліся, а прадоўжыліся яшчэ на тры гады бедствы чалавецтва ".

Далей уцякач накіраваўся са Смаргоні ў Ашмяны (імператар зноў пераапрануўся ў польскае ваеннае адзенне. — М.М.). Перад яго позіркам паўстала змучаная, замерзлая і спустошаная зямля.

Насельніцтва Беларусі ў некаторых акругах паменшылася ў два, а ў частцы раёнаў у тры разы. Параўнаем гітлераўскае нашэсце, дзе быў знішчаны кожны чацвёрты жыхар рэспублікі. Падкрэслю, французы былі каля паўгода, немцы — тры гады. Пасяўныя плошчы паменшыліся на 50 працэнтаў, засталася менш чым палова свойскай жывёлы. У Віцебскай губерні зусім не стала коней. Я ўжо не пішу аб традыцыйнай беларускай гаспадарцы, якая была ўшчэнт разбурана.

"Ідуць французы. Дзе ні пройдуць яны — нічога не застаецца: ніводнае чалавечае душы, ніводнае будыніны, усё нішчыць іх меч і агонь". (Так занатавала народная памяць у сваім творы "Пявун-звон". — М.М.), на месцы гарадоў і вёсак —руіны і папялішчы.

Відавочнік вайны славуты Ф.Глінка ў сваім творы "Лісты рускага афіцэра 1812 года" пісаў: "Праедзеш Оршу, Дуброўну, Барысаў, Мінск і нічога не заўважыш, акрамя паўсюднага разбурэння — немінучага выніку вайны".

Пра слаўныя перамогі над французамі ў Айчыннай вайне 1812 года апавядаюць помнікі ў гарадах і вёсках Беларусі: Брэсце, Віцебску, Верхнядзвінску, Варонах, Глыбокім, Друі, Кобрыне, Маладзечна, Полацку, Чашніках...

Колькасць навуковых выданняў пра Напалеона Банапарта расце, а гераічныя справы беларускіх партызан таго часу і патрыётаў, як і здрадніцтва паноў і іх паплечнікаў, не знаходзяць у апошнія моманты аніякага адлюстравання. Ці не дзіўна гэта? Ці наша памяць такая крывая?

Пішу гэта, а ў мяне баявым поклічам гучаць словы нашага вялікага суайчынніка Міколы Гусоўскага:

Войны! Злачынная справа — вайна выклікае

Гнеў мой, і слёзы, і боль.

(. . .)

Ваенны паход у Расію для Напалеона Банапарта, як ён сам потым неаднаразова гаварыў, быў самай буйнай памылкай у яго жыцці.

Не злачынствам, не зладзействам, а менавіта памылкай, так думалі, думаюць і магчыма будуць меркаваць і далей усе венцаносныя асобы, тыраны і дэспаты. Што ім кроў, слёзы, бедствы, забойствы людзей.

Беларускія партызаны ў лясах і на дарогах, мсціўцы ў гарадах і вёсках гінулі і пралівалі кроў у змаганні з акупантамі, а князі і памешчыкі закатвалі балі і пагулянкі для французаў.

Так, славутую партызанку-разведчыцу Фядору Міронаву памешчык Глазка адразу пасля вайны перапрадаў у Люцынскі павет. Толькі ў 1820 годзе зрабілі яе і яе сям'ю вольнай.

Айчынная вайна была пераможна закончана, і трэба было чакаць, што кожны атрымае адпаведна сваім учынкам. Хто змагаўся супраць захопнікаў — павінен быў атрымаць царскія міласці. Хто здрадзіў Айчыне — павінен быў пакутаваць, быць асуджаны. Але ўжо 12 снежня 1812 года Аляксандр І выдаў маніфест, у якім дараваў здраду панам і шляхце, а "сяляне, верны нам народ, няхай атрымае ўзнагароду сваю ад Бога", — крывадушна пісаў ён 30 жніўня 1814 года. Некалькі слоў аб гэтым галоўным памешчыку Расіі, які прынёс для Беларусі не менш гора і бедства, чым Напалеон, кінуўшы апошняму ў пастку безабаронны беларускі народ. Пры гэтым цары найбольш актыўна ішло апалячванне і акаталічванне беларусаў.

Князі, памешчыкі і падпанкі, якія аддана служылі французам, адразу зразумелі, што ім нічога не пагражае, азвярэлі і пачалі ганенне на герояў Айчыннай вайны.

Пугі, кіі, бізуны, астрогі, катарга, адданне ў рэкруты, Сібір, Сахалін, пакаранне смерцю — вось чым сталі для сапраўдных абаронцаў іх самаадданасць і патрыятызм. Пра гэта, у прыватнасці, апавядае шырокавядомая паэма Я.Баршчэўскага "Бунт хлопаў".

Але асаблівая трагедыя выпала на долю сялян-партызан з вёскі Жарцы, з якой 22 чалавекі былі ўзнагароджаны крыжамі за баі з французамі. Свае ўзнагароды яны прымацавалі на шапкі. І як толькі гэта ўбачыў памешчык Жаброўскі, ён проста ашалеў. За тое, што яго прыгонныя насілі ўзнагароды, якімі былі адзначаны іх заслугі перад Айчынай, ён загадаў прывесці ўсіх на стайню, дзе даў загад распранууцца дагала і пачаў з асаблівай лютасцю іх збіваць пугай. Пры гэтым ён крычаў: "Вось вам французы, вось вам свабода, вось вам крыж".

Жаброўскія і іншыя ведалі, што рабілі. За імі стаялі цар, войска, царква. Гісторыя захавала і такі прыклад. Па асабістаму хадайніцтву мінскага каталіцкага епіскапа мінскі губернатар загадаў аддаць пад суд сялян маёнтка Ратучыцы Барысаўскага павета за забойства памешчыка Шэмёта, які з асаблівай стараннасцю і дбайнасцю працаваў на напалеонаўцаў.

Асуджана было 15 чалавек: з іх — 13 мужчын і 2 жанчыны. Сэрца замірае ад такой дзікай несправядлівасці і подласці да сапраўдных патрыётаў. Усе 15 былі асуджаны.

І таму хваляванні праз год пасля нашэсця французаў пачалі ахопліваць шырокія слаі беларускага насельніцтва. Чыноўнік, пасланы сюды для разгляду становішча, пісаў, што "па ўсіх вёсках... пачалі з'яўляцца новыя шкодныя задумы..., сяляне гатовы да ўсеагульнага абурэння. Тут кажуць, што робяць нажы". Цар адрэагаваў неадкладна, накіраваў у гарачыя раёны войскі. Армія і прадухіліла народныя паўстанні на Беларусі пасля нашэсця французаў.

Напалеон рабаваў беларускі народ, цар Аляксандр І мардаваў гэты ж народ сваёй уладай, войскамі, царквой...

Разрабаваная, змучаная зямля, ашуканы абодвума дэспатамі народ Беларусі вытрымалі цяжкія выпрабаванні і пакуты. Але ўцалела душа мужнага народа. Перажыла і дэспатаў, і катаў, і гвалтаўнікоў. У гады гітлераўскага нашэсця беларускі народ яшчэ вышэй узняў годнасць сваіх продкаў, даў чужынцам рашучы адпор. Жыве, свеціць сённяшняму пакаленню гордая слава далёкай, але незабыўнай Айчыннай вайны 1812 года.

■

